Менск,
2015





ПРАПАНОВЫ АСАМБЛЕІ НЯЎРАДАВЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ БЕЛАРУСІ

# РЭГІЯНАЛЬНЫЯ НДА БЕЛАРУСІ: ПРАКТЫКІ, ІДЭІ, ПРАПАНОВЫ

# ЗЬМЕСТ

## ВІКТАР КЛІМУС, БЕРАСЬЦЕ:

# ЯК ДАМАГЧЫСЯ ПОСЬПЕХУ Ў КУЛЬТУРНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ Ў РЭГІЁНЕ

### *1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да стварэньня культурніцкага цэнтру “Грунтоўня”.*

Для Берасьця, як і для шматлікіх іншых гарадоў Беларусі, актуальнай праблемай зьяўляецца адсутнасьць офляйн пляцовак для творчай, сацыяльны і грамадзкай самарэалізацыі моладзі. На момант плянаваньня праекту мы ведалі прыклады пасьпяховай (больш ці менш) дзейнасьці

такіх цэнтраў толькі ў Менску (Арт-сядзіба, ДК “La мора”, галерэя “Ў”) і ў некаторых абласных цэнтрах.

Мясцовыя выканаўчыя ўлады забясьпечваюць творчы й культурны вольны час выключна моладзі школьнага ўзросту — для гэтага сэгмэнту дзейнічаюць некалькі ўстановаў пазашкольнай працы (ЦМТ, ДДзЮТ). Асобныя ініцыятывы й гурткі могуць існаваць пры ВНУ, але ўдзел моладзі ў іх традыцыйна невысокі з прычыны нецікавасьці й фармалізму працы. Грамадзкіх і сацыяльных прапановаў моладзевага адпачынку ў горадзе бадай што няма.

Маладыя людзі старэйшага ўзросту (18+) мусяць арганізоўваць уласны вольны час, зыходзячы з прапановаў камэрцыйнага сэктару сфэры адпачынку. А тут апошнім часам назіраюцца вельмі нэгатыўныя, нават шкодныя, тэндэнцыі. Такія, напрыклад, як узрастаньне колькасьці казыно й заляў гульнявых аўтаматаў, якіх на 300 000-ы горад на дадзены момант дзейнічае больш за 14 адзінак. У выніку камэрцыйнай нерэнтабэльнасьці пад казыно мусяць саступаць месца нават клюбныя й танцавальныя пляцоўкі, якія раней былі асноўным месцам моладзевага адпачынку, і асноўным месцам правядзеньня грамадзкіх мерапрыемстваў (атрымаць дазвол на выкарыстаньне гарадзкой прасторы ці дзяржаўных памяшканьняў для дзейнасьці НДА значна складаней, чым арэндаваць камэрцыйныя пляцоўкі). За апошнія 4 гады ўмяшчальнасьць

канцэртна-танцавальных заляў скарацілася больш чым на 60% (многія пляцоўкі сумяшчаюць канцэртна-танцавальную прастору зь іграવымі апаратамі). Адпаведна, вырас і кошт паслугаў арэнды заляў, у тым ліку для творчых і грамадзкіх ініцыятываў. Калі ў 2010 годзе мы маглі зьняць залю для мерапрыемства за 70–120 эўра, то зараз кошт падобных паслугаў пачынаецца ад 200. Для шматлікіх мясцовых моладзевых калектываў (музычных, мастацкіх і інш.), грамадзкіх арганізацыяў фактычна няма месца ў горадзе, дзе яны б маглі прэзэнтаваць сваю творчасьць ці камунікаваць з аўдыторыяй. Адпаведна, у саміх маладых людзей менш шанцаў карысна й культурна арганізаваць уласны адпачынак, падвысіць сваю грамадзкую актыўнасьць.

Гэтая сытуацыя нэгатыўна адбіваецца на колькасьці й якасьці культурніцкіх мерапрыемстваў у горадзе ды цягне за сабой непрыемныя сацыяльныя наступствы — павелічэньне моладзевага алькагалізму й наркаманіі, іграманіі, і зьвязаныя зь імі злачынствы.

Таксама падобная сытуацыя выклікае пэсымістычныя й апатычныя настроі моладзі, сярод якой жаданьне зьмяняць краіну ў лепшы бок зьяўляецца выключэньнем, а стабільна дамінуе жаданьне зьехаць на пастаяннае пражываньне за мяжу (каля 70% паводле апытаньня НІСЭПД за 2012 і 2013 гады).

## *2. Як гэта дзейнасьць ажыцьцяўлялася.*

У Берасьці быў заснаваны грамадзка-культурніцкі цэнтар, які функцыянуе дагэтуль. На базе КЦ "Грунтоўня" для гараджанаў, перадусім моладзі, ствараліся новыя магчымасьці культурнага й творчага адпачынку (майстар-клясы, творчыя сустрэчы, кінапрагляды, лекцыі й сэмінары), а таксама магчымасьці грамадзкай актыўнасьці (мерапрыемствы на экалягічную, сацыяльную, тэматыку аховы здароўя) ды іншыя. Кожны ахвочы мог скарыстацца памяшканьнем КЦ, гукавым абсталяваньнем і праектарам, рэклямай на старонцы "Грунтоўні", што рабіла арганізатарскую працу для пачаткоўцаў больш зручнай і эфэктыўнай. Сябры арганізацыі рэгулярна ладзілі асьветніцкія мерапрыемствы, празь якія прыцягвалі ўвагу грамадзтва й СМІ да існуючых праблемаў. Такім чынам, праводзілася 10-18 мерапрыемстваў на месяц, болей за 120 за ўвесь час. Прыблізна 34 зь іх ладзіліся ня сябрамі нашай арганізацыі — 17 іншых НДА, творчых калектываў, клюбаў і асобных актывістаў зьвярнуліся да паслугаў культурніцкага цэнтру са сваімі ідэямі.

Колькасьць ідэяў і прапановаў з боку карыстальнікаў нашых паслугаў была й застаецца стабільна высокай. Значную частку гасьцей-выступоўцаў, тэмаў і фарматаў мерапрыемстваў прапануюць самі наведвальнікі "Грунтоўні". Выступоўцамі й гасьцямі прыблізна 10-12%

мерапрыемстваў становяцца прадстаўнікі іншых рэгіёнаў. Эксьперты, творцы, грамадзкія актывісты зь Менску ды іншых гарадоў знаёмяць берасьцейцаў са сваёй творчасьцю й дасягненьнямі. Так, да прыкладу, першая ў Беларусі прэзэнтацыя дапоўненага выданьня кнігі "Імёны свабоды" Ўладзімера Арлова адбылася менавіта ў "Грунтоўні" *(фота з гэтага мерапрыемства: http://vk.com/album-78232668_213856165 альбо агулам фотаздымкі зь мерапрыемстваў: http://vk.com/albums-78232668).*

## 3. Прыклады пасьпяховых дзеяньняў і ня вельмі.

Мы стварылі інструмэнт, які дазваляе шырока забясьпечваць грамадзка-культурніцкую дзейнасьць нашай арганізацыі й партнэраў у рэгіёне, а таксама гнутка й надзвычай хутка рэагаваць на зьменлівыя патрэбы мэтавай аўдыторыі.

Вельмі рэдка патрэбы актывістаў-ініцыятараў перавышаюць тое, што можа прапанаваць КЦ "Грунтоўня" на дадзены момант: памяшканьне для правядзеньня мерапрыемства, праектар і гукавая тэхніка, невялікія сродкі на расходныя матэрыялы для творчасьці, магчымасьць анансаваць сваю дзейнасьць сярод патэнцыйна зацікаўленых людзей, часам, выдаткі на дарогу для

спэцыялістаў зь іншага рэгіёну. Такім чынам, у кожнага ініцыятыўнага берасьцейца зьяўляецца магчымасьць паспрабаваць сябе ў ролі арганізатара грамадзкіх мерапрыемстваў, рэалізаваць свае творчыя задумы, зладзіць цікавую культурніцкую імпрэзу. Такая магчымасьць не патрабуе ад актывіста напісаньня доўгіх праектных заявак, складаных разьлікаў, чаканьня адказу, што на раньніх этапах працы ў НДА можа адбіць у маладога чалавека ахвоту займацца грамадзкай дзейнасьцю.

Для мэнэджараў нашай арганізацыі таксама значна зручней забясьпечыць і ўтрымліваць адно памяшканьне для працы, чым шукаць і арандаваць новае на кожнае асобнае мерапрыемства. Гэта эканоміць велізарную колькасьць часу й высілкаў.

Такім чынам, берасьцейскія актывісты не пасьпяваюць “перагарэць ідэяй”, пакуль знойдуць магчымасьці на яе рэалізацыю, і кожная спантанная задума можа ўвасобіцца цягам лічаных дзён. Гэта асабліва актуальна для моладзевай аўдыторыі, якая генэруе безьліч ідэяў, але часта ня мае навыкаў і цярпеньня для іх рэалізацыі.

***З момантаў, якія не ўдалося рэалізаваць:*** пакуль існаваньне цэнтру мае вельмі няўстойлівы характар. Зь цяжкасьцямі рэалізуецца ідэя частковай самаакупляльнасьці дзейнасьці —

легалізацыя й афармленьне прыбыткаў па беларускім заканадаўстве (штатны супрацоўнік з адлічэньнем у ФСАН, падаткі, вядзеньне бугальтэрыі й г.д.) патрабуе большых сродкаў, чым можа прынесьці ўвядзеньне платных паслугаў (продаж сувэніраў і квіткоў на імпрэзы, платны ўдзел у майстэрнях). Падобная схема дзейнасьці прапрацоўваецца, але пакуль так і ня была ўведзеная. А без уласных рэсурсаў праект цалкам залежыць выключна ад дабрачынных (спонсарскіх, донарскіх) унёскаў, што рызыкоўна для яго доўгатэрміновага існаваньня.

## *4. Рэкамэндацыі рэгіянальным грамадзкім актывістам, якія працуюць у галіне культуры.*

### 1. *Стаўце недасягальныя задачы.*

Узяць можна толькі тую плянку, якая пастаўленая перад скокам.

Пэрформанс на цэнтральнай пешаходнай вуліцы? Пасланьне арганізацыі гарадзкіх білбордах? Поўная канцэртная заля ці ўласная культурніцкая пляцоўка ў райцэнтры? Значная частка таго, што на першы погляд падаецца нерэальным і немагчымым у Беларусі (вашым горадзе, раёне) — можа быць рэалізаваная на другой-трэцяй спробе, пры ўмове, што Вы кіруецеся п.2 і п.3.

### 2. *Шукайце новыя падыходы.*

Экспэрэмэнтуйце з пасыламі й прапановамі да мэтавай аўдыторыі. Не зацыклівайцеся на аднолькавых формах працы. Аналізуйце й выпрацоўвайце новыя інструмэнты й бязьлітасна пазбаўляйцеся таго, што не працуе й не дае жаданага выніку. Грамадзкая дзейнасьць, як любы творчы працэс — чым болей спробаў, тым лепей плён.

### 3. *Камунікуйце больш.*

Значна больш. І праз розныя каналы. Прапануйце іншым актывістам весьці перамовы зь людзьмі й структурамі, дамовіцца зь якімі не атрымалася ў Вас. Зьвяртайцеся да новых суб’ектаў, якія працуюць у Вашай сфэры, шукайце больш ляяльных да Вас людзей у дзяржаўных установах і мясцовых органах улады (такія абавязкова знойдуцца). Матывуйце іншыя зацікаўленыя бакі адстойваць патрэбную Вам (ды ім) пазыцыю. “Дастаньце” ўсіх (Вы грамадзкі актывіст, а не гандляр парфумай — Вам можна).

### 4. *Ня мысьліце шаблёнамі.*

Чыноўнік — гэта ня значыць пераканаdebug прыхільнік крывавых рэжымаў і ненавісьнік усяго чыстага-сьветлага. Камэрсант — не абавязкова звар’яцелы на грошах, які задавіцца за кожную

капейку й пашкадуе на добрую справу. Усе мы людзі, усе імкнемся да лепшага — сыходзьце з гэтых пазыцыяў пакуль канкрэтны суразмоўца канчаткова й беспаваротна не даказаў Вам адваротнае (але толькі адносна самога сябе, а не ўсяго чалавецтва).

### **5.** ***Ведайце й карыстайцеся патрэбамі іншых.***

Вельмі шмат лякальных установаў культуры й адукацыі маюць велізарнейшы дэфіцыт кадраў ды ідэяў. Навучаныя за савецкім часам пэнсіянэркі (і больш маладзейшыя) зь бясконцых на нашых абшарах музэяў, ДК, бібліятэкаў, нават ВНУ проста ня могуць прапанаваць сучаснай моладзі нічога цікавага й карыснага. Між тым, пляны па масавых і асьветніцкіх мерапрыемствах для дзяржаўных установаў ніхто не адмяняў. Вы нават не ўяўляеце, зь якой радасьцю яны прымуць Вашу дапамогу ў арганізацыі, калі Вы здольныя будзеце прывесьці ім жывую публіку! Але тут важна памятаць некалькі прынцыповых момантаў (п.6. і п.8).

### **6.** ***Аддавайце перавагу выніковасьці супрацы, а не асабістым амбіцыям.***

“Першай справай самалёты…”. Не пачынайце супрацу зь дзяржаўнымі ўстановамі з прэзэнтацыі сваёй арганізацыі. Асабліва, калі яна (ці яе лідэр) вядомыя сваёй палітычнай актыўнасьцю альбо меў ідэалягічныя канфлікты зь мясцовымі чыноўнікамі. Лепш адпраўце на перамовы цалкам но-

вых людзей, якія “па поклічы сэрца вырашылі дапамагчы роднаму гораду” й праявілі ініцыятыву. Самі праявілі.

Напрацуйце асабісты пазытыўны імідж па вырашэньні нэўтральных, агульных праблемаў. Пасьля пачынайце пакрыху ўзгадваць сваю прыналежнасьць да незалежных НДА і ставіць больш канфліктныя пытаньні. Але НІКОЛІ не рабіце апошняга на супольных масавых мерапрыемствах, калі новыя партнэры не чакаюць і не ўзгаднялі з Вамі такі “ход канём”.

### 7. *Паважайце сябе й людзей, зь якімі працуеце.*

Не падманвайце чаканьні ад супрацы. Калі ў раённым музэі Вы абяцалі культурніцкую музычную імпрэзу пра Клеафаса Агінскага, то ў кульмінацыйны момант ня варта падымаць б-ч-б сьцягі й заклікаць прысутных біць маскалёў і вяртаць страчаную спадчыну “ад мора да мора”. Клеафас — значыць толькі Клеафас.

### 8. *Ня крыўдзіцеся ні на каго.*

Калі Вы не “кідаеце” іншых, гэта ня значыць што ня кінуць Вас. Не зьдзіўляйцеся, калі пасьля “супольнай” (прыдуманай і арганізаванай Вамі) імпрэзы ў мясцовай газэце зьявіцца артыкул, што музэй/бібліятэка/ВНУ/камэрцыйная арганізацыя/райвыканкам (патрэбнае падкрэсьліць)

правялі нешта файнае. Зьмірыцеся з падобнай магчымасьцю загадзя.

Тым больш, што ў сыстэме на пасадах рэдактараў, ідэолягаў застаюцца людзі, якія ня хочуць Вас бачыць наогул, ня тое, што называць Вас партнэрамі па мерапрыемстве. Не праецыруйце сваю незадаволенасьць на тых, з кім Вам удалося наладзіць больш-менш эфэктыўную камунікацыю. Хай Вас цешыць п.5: "Першай справай самалёты" — Вы сваю справу робіце.

### 9. *Заўжды памятайце, дзеля чаго Вы працуеце.*

Самы лепшы сродак ад хандры й дэпрэсіі — мець уласную мэту ў жыцьці. А ў штодзённых грамадзкіх турботах досыць лёгка пераарыентавацца на чужыя прыярытэты. Дырэктаркі культурніцкіх установаў прапануюць свае "сьвяшчэнныя" тэмы супольных імпрэзаў, сябры рэспубліканскіх парасонаў-плятформаў заклікаюць адстойваць патрэбы ўсіх і адразу, палітыкі клічуць змагацца з рэжымам, фонды выстаўляюць свае патрабаваньні й прыярытэты… Але ж і Вы не чырвонец, каб усім падабацца й быць карысным. Таму, зважаючы на папярэднія пункты, варта заўжды памятаць толькі адно — тое, дзеля чаго Вы прыйшлі ў грамадзкую дзейнасьць, і што жадаеце зьмяніць у гэтым сьвеце. Новыя інструмэнты й доўгія перамовы мусяць максымальна набліжаць Вас, грамадзтва й краіну да той, жаданай, зразумелай Вам мэты.

Яе адстойваньне часта патрабуе неймавернай цьвёрдасьці, прынцыповасьці, якую часам цяжка сумяшчаць з паліткарэктнасьцю ды тактам. Ня здрадзіць сваім ідэалам і не спаліць усе масты адначасова — гэта вышэйшы пілатаж.

### 10. ***Захоўвайце аптымізм і стаўце яшчэ больш недасягальныя задачы.***

Недастаткова кожным разам ставіць плянку вышэй і вышэй. Трэба яшчэ кожным разам верыць, што ты зможаш яе ўзяць.

А для захаваньня аптымізму не чытайце мэдыя пра тое, што вакол усіх толькі б'юць, саджаюць, забараняюць. Калі мерапрыемства скончылася й нікога не забралі ў пастарунак — гэта надзвычай файны вынік. Падзяліцеся ім, а не скардзіцеся на долю гаротную. Людзям зараз патрэбныя гісторыі посьпеху!

## СЯРГЕЙ САЛАШ, БАРЫСАЎ:

# АРГАНІЗАЦЫЯ НАРОДНЫХ ПРАТЭСТАЎ І ПУБЛІЧНЫХ ГРАМАДЗКІХ СЛУХАНЬНЯЎ

### *1. Апісаньне праблемаў, якія падштурхнулі да пачатку кампаніі.*

Адсутнасьць дыялёгу па важных гарадзкіх праблемах паміж мясцовымі жыхарамі й гарадзкімі ўладамі ня раз прыводзілі да канфліктных сытуацыяў у Барысаве. Спробы кіраўніцтва гораду вырашаць тыя ці іншыя праблемы без уліку меркаваньня людзей нараджалі яскравыя праявы лякальных народных рухаў з самых нізоў.

Так, у 2008 годзе паўсталі жыхары вуліцы Ватуціна супраць ушчыльненьня іх мікраараёну пад будаўніцтва новых шматпавярховых жылых дамоў, якое вылілася ў масавую высечку невялікага сасновага лапіка. На месцы высечаных соснаў адбыўся шэраг даволі шматлюдных несанкцыянаваных мітынгаў з удзелам некалькіх соцень чалавек і, урэшце, прысутнасьцю кіраўніцтва гораду. У той час актывісты грамадзкай ініцыятывы "За чысты Барысаў!" актыўна ўключыліся ў арганізацыю грамадзкіх пратэстаў, падрыхтаваўшы й распаўсюдзіўшы адпаведны інфармацыйны матэрыял па паштовых скрынях на ўсёй вуліцы Ватуціна.

Вынік грамадзкіх пратэстаў быў станоўчы. Большая частка соснаў была захаваная, а будаўніцтва дамоў было перанесенае ў іншы, менш канфліктны раён Барысава.

У 2010 годзе ў горадзе адбыўся чарговы выбух грамадзкага незадавальненьня. Цяпер гэта быў мікрараён Лядзішча, дзе гарадзкія ўлады, не параіўшыся зь мясцовымі жыхарамі, вырашылі пабудаваць аўтазаправачную станцыю. І пачалося будаўніцтва ізноў жа з масавай высечкі дрэваў. Сотні людзей дамагаліся перагляду рашэньня Барысаўскага райвыканкаму, успыхвалі стыхійныя мітынгі. Больш за тое, гарадзкія ўлады пагадзіліся на правядзеньне грамадзкіх слуханьняў ужо тады, калі яны нічога не вырашалі — калі будаўніцтва АЗС пачалося.

Вынік пратэстаў у Лядзішчах скончыўся паразай. Некалькімесячная барацьба не дала выніку й будаўніцтва аўтазапраўкі працягнулася.

Памылкай гэтых пратэстаў, на наш погляд, была іх палітызацыя, бо яны адбываліся на фоне перадвыбарчай прэзыдэнцкай кампаніі. Народны пратэст беспасьпяхова спрабавалі выкарыстаць у сваіх мэтах пэўныя палітычныя актывісты, што было козырам у руках мясцовых уладаў і пэўным дэмабілізуючым фактарам для часткі жыхароў Лядзішчаў.

Здавалася б, гэтыя два яскравыя прыклады народных пратэстаў у Барысаве мусілі падштурхнуць мясцовыя ўлады да большай адкрытасьці. У паветры пачала лунаць ідэя неабходнасьці правядзеньня публічных грамадзкіх абмеркаваньняў перад зацьверджаньнем кожнага горадабудаўнічага праекту. Аднак рэчаіснасьць была іншая. Барысаўскія чыноўнікі не зьбіраліся рабіць сваю дзейнасьць больш празрыстай. І ў 2013 годзе ўзьнік новы народны пратэст. Цяпер ужо ў мікраараёне Печы.

## *2. Як гэтая кампанія праходзіла.*

Усё пачалося з дэжавю — высечкі дрэваў па ўсім мікрараёне, а таксама высечкі сасновага бору ў самым цэнтры Печаў. Высьветлілася, што хвоі высякаюць пад будаўніцтва прыватнай піцэрыі і, як стала вядома неўзабаве, — без наяўнасьці ўсяго пакету неабходнай пры гэтым дакумэнтацыі.

Актывісты грамадзкай ініцыятывы “За чысты Барысаў!” разам з актыўнымі жыхарамі Печаў пачалі кампанію за захаваньне соснаў у мікрараёне, наданьне статусу пешаходнай зоны для цэнтральнай пячанскай вуліцы й за правядзеньне адкрытага грамадзкага абмеркаваньня праекту будаўніцтва піцэрыі з удзелам усіх зацікаўленых бакоў *(відэа http://goo.gl/6kLsFe)*.

Былі падрыхтаваныя й распаўсюджаныя па паштовых скрынях ***3000 улётак*** “Хопіць зьнішчаць нашы сосны!” *(фоты + зьмест улёткі http://goo.gl/sxUpes)*. Паралельна пачаўся збор подпісаў пад зваротам у мясцовыя органы ўлады. Літаральна за некалькі дзён было сабрана ***каля 800 подпісаў,*** прычым каля чвэрці подпісаў былі сабраныя пасьля званкоў людзей на кантактныя нумары ГІ “За чысты Барысаў!”, а астатняя частка праз абыход кватэраў і адкрыты збор у цэнтры мікрараёну. Подпісы перадаваліся ў мясцовыя органы часткамі — па 250-300 подпісаў цягам некалькіх дзён, бо чакаць, пакуль будзе сабраная ўнушальная маса подпісаў, часу не

было — сосны высякаліся, а абазначыць пратэст трэба было як мага хутчэй *(фоты, як адбывалася рэгістрацыя сабраных подпісаў http://goo.gl/Qv1xmc)*.

Грамадзкая атмасфэра ў мікраraёне была вельмі напружаная. Гарадзкія ўлады гэта ўсьведамлялі й для зьняцьця напругі вырашылі правесьці ў пячанскім Доме культуры "сход грамадзянаў па пытаньнях добраўпарадкаваньня й навядзеньня парадку на зямлі". Пры гэтым нармальна праінфармаваць жыхароў мясцовыя ўлады не парупіліся, магчыма, спадзеючыся на тое, што сход будзе малалікі й непрадстаўнічы *(фота запрашэньня ад уладаў тут http://goo.gl/5j3crt)*. Аднак пасьля нашых абтэлефанаваньняў на сход прыйшло ня меней за 100 чалавек, падчас чаго прадстаўнікі Барысаўскага райвыканкаму былі вымушаныя прызнаць, што будаўніцтва піцэрыі трэба было праводзіць з улікам грамадзкага меркаваньня *(фота сходу http://goo.gl/SVkoFL)*.

Цікава, што падчас гэтых народных пратэстаў у цэнтры Барысава ўжо цягам некалькіх тыдняў адбывалася й нават ужо завяршалася "грамадзкае абмеркаваньне" па пытаньні будаўніцтва піцэрыі, пра якое ніхто ў Пячах ня ведаў. Разумеючы, што завяршаць "абмеркаваньне", на якім ніхто не прысутнічаў і ня выказаўся, нельга, Барысаўскі райвыканкам прызначыў новыя даты. Праўда, ужо пасьля народнага сходу, калі "пар быў выпушчаны" *(пра скасаваньне псэўдаграмадзкага абмеркаваньня http://goo.gl/tthVB1)*.

***Вынік пратэсту ў Пячах быў наступны — будаўніцтва піцэрыі было працягнута, але з максымальным захаваньнем соснаў (плошчы заплянаваных зьнішчэньняў былі значна большыя).***

Акрамя таго, гарадзкія ўлады былі вымушаныя пайсьці на публічнае абмеркаваньне праблемаў мікраараёну Печы. Апошні раз гэта здарылася ў 2003 годзе, таксама ў выніку грамадзкіх пратэстаў падчас выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў.

Наступныя два гады актывісты грамадзкай ініцыятывы "За чысты Барысаў!" у супрацы з актывістамі мясцовай філіі праваабарончага цэнтру "Вясна" дамагаліся замацаваньня практыкі публічных грамадзкіх абмеркаваньняў горадабудаўнічых праектаў у Барысаве. Адбывалася гэта найперш у юрыдычнай плоскасьці. У кожным са зваротаў у мясцовыя органы ўлады мы нагадвалі пра казусы народных пратэстаў у гарадзкіх мікрараёнах, настойваючы на тым, што празрыстасьць і публічнасьць — гэта не прыхамаць грамадзкіх актывістаў, а надзённая патрэба для ўсіх жыхароў Барысава.

***Урэшце рэшт, на пачатку чэрвеня 2015 году ў Барысаве адбылося бадай першае ў гісторыі афіцыйнае абмеркаваньне аднаго з гарадзкіх праектаў з удзелам грамадзкасьці й зацікаўленых бакоў.***

Яно датычыла заплянаванага грандыёзнага будаўніцтва ў мікрараёне Лядзішча й зьменаў у сувязі з гэтым генэральнага пляну Барысава. Праўда, перад гэтым пад ціскам грамадзкіх актывістаў мясцовыя ўлады былі вымушаныя арганізаваць паўторнае грамадзкае абмеркаваньне й вызначыць дакладны час і месца для яго правядзеньня *(http://barysau.by/?p=1695)*.

***І вось 3 чэрвеня 2015 году адкрытыя грамадзкія слуханьні адбыліся.***

Праўда, і тут барысаўскія чыноўнікі панакладалі падводных камянёў. Час для правядзеньня абмеркаваньня яны прызначылі абсалютна нязручны — працоўны дзень а 10-й гадзіне раніцы й за некалькі кілямэтраў ад мікрараёну Лядзішча, якое плянавалася разбудоўваць. Акрамя таго,

жыхароў мясцовыя ўлады не паінфармавалі. У выніку колькасьць удзельнікаў мерапрыемства была мізэрная — каля дзясятка чалавек *(фота тут http://barysau.by/?p=1723)*.

## *3. Прыклады пасьпяховых дзеяньняў і ня вельмі*

Праблема з гарадзкімі абмеркаваньнямі ў Барысаве своеасаблівая. Яны нібыта ёсьць, але насамрэч іх няма. Фармальна мясцовыя ўлады даюць магчымасьць людзям выказацца, але адбывацца гэта можа толькі непублічна. Грамадзянін мае права пакінуць пісьмова свае заўвагі ў аддзеле архітэктуры Барысаўскага райвыканкаму, зарэгістраваўшыся ў адпаведным журнале, але задаць пытаньні й атрымаць адказ з боку зацікаўленых асобаў ня можа, бо такая опцыя не прадугледжаная.

Сёньня грамадзкія актывісты Барысава працягваюць працу па вырашэньні наступных праблемаў, зьвязаных з практыкай правядзеньня грамадзкіх слуханьняў. Мы спрабуем дамагчыся для такіх мерапрыемстваў зручныя час, дзень і месца. І цалкам магчыма, што дамагчыся гэтага ўдасца толькі тады, калі выбухне чарговы народны пратэст.

## 4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах Беларусі.

***Як грамадзкай кампаніі дасягнуць максымальнага рэзанансу сярод людзей?*** Для таго, каб грамадзкая кампанія вакол пэўнай праблемы мела посьпех і захоўвала дынаміку, праблема павінна закранаць ня толькі жыхароў лякальнай супольнасьці, але ня ў меншай ступені й саміх актывістаў. Высмоктваньне праблемы з пальца гарантуе, што на пэўным этапе кампанія пачне даваць збоі.

## Асноўныя этапы кампаніі для дасягненьня значнага грамадзкага рэзанансу:

**1.** ***Вывучэньне важнасьці праблемаў*** праз анкетаваньне жыхароў пэўнай мясцовасьці. У інфармацыйным матэрыяле, акрамя ўласна апытаньня, павінны знаходзіцца ўводны інфармацыйны блёк, у якім Вы падводзіце жыхароў да важнасьці той праблемы, якую б хацелі вырашыць Вы й Вашая ініцыятыўная група. Істотна, каб гэтая праблема закранала, прынамсі трэцюю

частку жыхароў лякальнай супольнасьці. Пры правільным расстаўленьні акцэнтаў гэтая праблема ўжо на першым этапе ахопіць розумы каля паловы жыхароў супольнасьці.

Абавязкова ва ўсіх інфармацыйных матэрыялах павінны прысутнічаць кантактныя нумары, прычым яны мусяць быць на ўсіх старонках ды вельмі выразна. Досьвед паказвае, што частка людзей нейкім дзіўным чынам кантакты не заўважае. У выпадку першага этапу кампаніі важна, каб людзі змаглі з Вамі зьвязацца й перадаць запоўненыя анкеты.

**2.** ***На падставе сабраных анкетаў*** Вы фармулюеце зьмест калектыўнай заявы ў мясцовыя органы ўлады. Гэтую заяву разам з магчымасьцю яе падпісаць распаўсюджваеце сярод жыхароў мікрараёну ды прапануеце людзям, падпісаўшы яе, патэлефанаваць на кантактныя нумары з тым, каб Вы ці прадстаўнікі вашай ініцыятыўнай групы змаглі сабраць подпісы. Звычайна, такіх подпісаў недастаткова для "псыхалягічнага ціску" на мясцовыя ўлады, іх колькасьць складае каля 15-20% ад таго, колькі б Вы маглі сабраць, ажыцьцявіўшы кампанію "ад дзьвярэй да дзьвярэй". Заўсёды знойдзецца той, хто падпісаўся, але не здагадаўся Вам патэлефанаваць.

Вельмі важна, у распаўсюджанай заяве абазначыць праз колькі дзён і ў які час Ваша ініцыятыўная група пачне пакватэрны абыход для збору подпісаў. Тут ужо Вы можаце

ісьці са сваімі падпіснымі аркушамі. Пасьля двух інфармацыйных матэрыялаў (апытаньне й калектыўная заява) подпісы зьбіраюцца вельмі лёгка, адсотак уцягнутасьці ў праблематыку кампаніі сярод жыхароў лякальнай супольнасьці можа дасягаць каля 80.

**3.** ***Самы просты этап*** — усе сабраныя подпісы перадаяце ў мясцовыя органы ўлады. На ўсялякі выпадак, зрабіце копіі подпісаў.

**4.** ***Падчас разгляду калектыўнай заявы*** ў мясцовых органах улады важна "ня зьнікнуць", а працягнуць псыхалягічны ціск на чыноўнікаў і павысіць ступень уцягнутасьці насельніцтва ў грамадзкую кампанію. З гэтай мэтай Вы масава пашыраеце сярод людзей трэці інфармацыйны матэрыял з падзякай за сабраныя подпісы (адзначаеце яе вялікую колькасьць) і акрэсьліваеце тэрміны, калі будзе гатовы афіцыйны адказ ад уладаў. Звычайна, падчас гэтага этапу знаходзіцца каля 3% людзей, якія па нейкіх прычынах хацелі падпісацца, але не пасьпелі альбо іх не было дома падчас вашага пакватэрнага абыходу. Калі ласка, не адмаўляйцеся ад гэтых подпісаў, абавязкова наведайце гэтых людзей, а самі подпісы перадайце ў мясцовыя органы ўлады дадаткова.

**5.** ***Нарэшце, Вы атрымалі афіцыйны адказ.*** Калі ён станоўчы для вырашэння абазначанай праблемы, Вам дастаткова падрыхтаваць чацьвёрты інфармацыйны матэрыял, у якім патрэбна разьмесьціць копію афіцыйнага адказу, а таксама падзяку ўсім тым, хто паставіў свой подпіс пад зваротам, тэлефанаваў Вам і г.д.

У выпадку, калі мясцовыя органы ўлады адклалі вырашэньне праблемы на пэўны час (паўгады-год), у інфармацыйным матэрыяле Вы павінны паабяцаць людзям ажыцьцяўляць кантроль тэрміну пачатку вырашэньня праблемы. Для гэтага вельмі важна прыкладна пасярэдзіне тэрміну да пачатку абяцанага вырашэньня праблемы распаўсюдзіць яшчэ адзін матэрыял, які нагадвае гісторыю грамадзкай кампаніі ды час, які застаўся да абяцанага вырашэньня праблемы.

У выпадку адмовы Вам застаецца прайсьці шлях перапіскі “па вэртыкалі”, у вышэйшыя органы ўлады. Часта гэта спрацоўвае, і мясцовыя органы знаходзяць магчымасьць праблему разьвязаць. Але перад пачаткам кампаніі надзвычай важна ўсьведамляць, ці вырашальная ў прынцыпе ўзьнятая праблема. Калі яна аб’ектыўна ня можа быць вырашана цалкам, магчыма, ёсьць рэзон заняцца той яе часткай, якая будзе пад сілу мясцовым уладам.

## ВОЛЬГА ХАРЛАМАВА, Г.П. СЬВІСЛАЧ:

# ЗВАРОТЫ ГРАМАДЗЯНАЎ: НЕ “КАМПАНЕЙСКІ” Й ТЫМ БОЛЕЙ НЕ “ПРАЕКТНЫ” ПАДЫХОД

Сталая праца са зваротамі грамадзянаў — гэта не кампаніі/акцыі/праекты. Усё пералічанае можа быць толькі складнікам сталай, доўгай і магчыма незаўважнай працы. Таму тыя, хто чакае рэцэпту, як “за тэрмін выкананьня праекту” ў 8-10 месяцаў стаць пасьпяховым, вядомым і ўплывовым, могуць адразу пераходзіць да наступнага тэксту. Звароты (асабліва звароты асобных грамадзянаў) не даюць выбуховага выніку. Гэта як дробны сьнег. Падае мала й незаўважна, але праз пэўны час зьмяняе выгляд наваколься.

Тым жа, хто настроены працаваць незалежна ад наяўнасьці дадатковых рэсурсаў, не зважаючы на часовыя абмежаваньні, выкладзеныя тэзісы, магчыма, пададуцца цікавымі. Тым болей, што вынікам могуць стаць:

1. ***Сталыя зьмены на Вашай тэрыторыі.***
2. ***Далучэньне новых людзей да каманды.***
3. ***Істотны рост уплыву лідэраў на мясцовую супольнасьць.***

І ўсё гэта паступова. Да таго ж, у межах існага заканадаўства. Але пры гэтым выкарыстоўвае слабыя месцы сыстэмы й у рэшце рэшт можа яе нават крыху зьмяніць.

## *1. Уводзіны ў прадмет. Альбо як працуе сыстэма.*

Вы ніколі не задумваліся, чаму сыстэма грамадзкіх сувязяў і адносінаў па лініі чалавек-дзяржава такая ўстойлівая? Нават у відавочным прыкладзе — выбарах. Нават пры ўмове цалкам празрыстага галасаваньня “існая эліта” будзе мець перавагу ў галасах (у сярэднім па краіне).

Прычына ў прадуманасьці часткі мэханізмаў. У прыватнасьці для “выпуску пары” — зьмяншэньня ўзроўню незадаволенасьці грамадзянаў.

Як гэта працуе? Проста. 90% прычынаў дыскамфорту для звычайнага чалавека знаходзіцца на ніжэйшым, бытавым узроўні: кепска абслужылі ў краме, нізкая тэмпэратура паветра ў хаце, ямы на дарогах і г.д. І калі не рабіць гэтыя праблемы невырашальнымі, палітычная незадаволенасьць можа ніколі не перайсьці кропку кіпеньня. Рэакцыя хоць на частку праблемаў — дэманстрацыя працы дзяржавы. А таксама падтрыманьне вельмі зручнага тэзіса “на ніжэйшым узроўні могуць быць і лайдакі, і хамы, і дурні. Тыя ж, хто вышэй, дзень і ноч думаюць пра шчасьце народнае”. І калі пэрыядычна рабіць “публічную порку” чыноўнікаў на месцы (на падставе зваротаў) — ствараецца ўражаньне справядлівай улады. Менавіта з гэтых прычынаў у Беларусі пэрыядычна “прызначаюцца” вінаватыя. Не асобы — ведамствы. Такімі могуць быць структуры ЖКГ, дарожнікі, сфэра гандлю і г.д. Звароты й судовыя скаргі супраць такіх ведамстваў у пэрыяд іх “вінаватасьці” практычна заўсёды задавальняюцца. Зазначу, што вінаватых прызначаюць не на стала. Іх пэрыядычна мяняюць.

Што да астатніх 10% зваротаў, тых, дзе падымаюцца “каляпалітычныя пытаньні” — іх можна ігнараваць. Гэта не ўплывае на стабільнасьць сыстэмы.

Такім чынам, ёсьць дзейсныя мэханізмы, якія служаць уладзе, але якія зьяўляюцца й досыць моцным інструмэнтам уплыву на ўладу. Завуцца яны "звароты грамадзянаў". Іх часта недаацэньваюць, і дарма, бо пры слушным падыходзе такія інструмэнты пакрыху мяняюць стыль працы мясцовых чыноўнікаў і маюць яшчэ адзін вынік — магчымасьці папулярызацыі тых ці іншых грамадзкіх, палітычных ініцыятываў.

## *2. Мэтадалёгія працы.*

Інструмэнт маем. Пытаньне ў малым — правільна яго выкарыстаць. І вось тут ёсьць праблемы. Варта падзяліць гэтыя праблемы (ці памылкі ў працы) на 2 групы: няправільны падыход да складаньня зваротаў і памылкі ў працы зь людзьмі. Пачну зь першае групы.

***Вось памылкі зь першай групы, якія зьніжаюць шанцы на задавальненьне звароту:***

**1.** ***Вывад на больш высокі ўзровень.*** Напісаньне кіраўніку вобласьці, міністру, прэзыдэнту, пану Богу звароту, што да працы сантэхніка — дэманстрацыя жаданьня вынесьці праблему ў палітычную сфэру. У такім выпадку Ваш зварот патрапляе ў 10% "для ігнараваньня". А ягоныя паўторы, адпаведна прынятым зьменам у заканадаўства, выводзяць аўтара

зь пераліку асобаў, якім варта адказваць. Так, законам фактычна ўведзеныя “чорныя сьпісы зваротавых троляў”.

**2.** ***Абвінавачваньні ў звароце.*** Так, калі ёсьць праблема — Вы верагодней за ўсё маеце рацыю. Але пачынаць ліст з выразу кшталту “Вы парушаеце закон”, “Вы не клапоцiцеся пра іншых” — гэта памылка. Асабліва калі гэтыя “Вы” знаходзяцца не на ніжнім узроўні ўладнае піраміды. Нават зьвяртаючыся да звычайнага чалавека нельга пачынаць размову з “ты такі-сякі...”. Ён Вас верагодней за ўсё не зразумее. Гэтак жа й чыноўнік.

**3.** ***Недакладнасьць фармулёвак і памылкі з фактурай.*** Напрыклад, у Вас 5 разоў на месяц адключалі ваду. У звароце Вы напісалі: “штотыдзень былі перапынкі з водазабесьпячэньнем”. Але, калі быў прынамсі 1 тыдзень нармальнай працы — Вы ўжо падманулі. У выніку, зварот патрапляе ў зону рызыкі — чыноўнік на яго зрэагуе толькі калі па пляне (так ёсьць нормы “пакараньня падначаленых”) не хапае рэакцыі на пару зваротаў.

Цяпер можна перайсьці да другой групы памылак, памылак у камунікацыі зь людзьмі. Асноўная зь іх — гэта праца ў межах “праекту”, “акцыі”, “праграмы”. Такі шлях аўтаматычна зводзіць эфэкт актыўнасьці да нуля. Звароты — гэта досыць марудны, хоць і эфэктыўны, мэтад зьменаў адносінаў

унутры супольнасьці на пэўнай тэрыторыі. А таксама, зьмена ў стаўленьні чалавека да ўладных сэрвісаў. Любыя падобныя зьмены адбываюцца не за адзін год. Адпаведна, хочаш эфэкту — маеш крыху пачакаць. Гэта варта й казаць людзям. Не абяцаць хуткага вырашэньня праблемы.

Другая група памылак лягічна выцякае зь першай, а менавіта, з “праектнай” дзейнасьці. Любая арганізацыя ці ініцыятыва жадае хуткай пазнавальнасьці й папулярнасьці.
***У гэтым імкненьні робіць хібныя па сваёй сутнасьці рэчы:***

**1.** ***Спрабуе “дапамагчы”.*** Самае простае: прыйдзіце да нас — мы зробім зварот. Гэта шлях у нішто. Бо Вас пачынаюць успрымаць толькі як кароткатэрміновага надаўцу сэрвісу. Слушны падыход — Вы будзеце САМІ пісаць, зьвяртацца. Так, мы дапаможам з фармулёўкамі, афармленьнем, парадамі. Але чалавек мусіць сам зрабіць крок — сам паставіцца да ўлады як да надаўцы сэрвісу.

**2.** ***Аўтарства посьпеху.*** Ні ў якім разе нельга прысвойваць посьпех звароту. Любая інфармацыя кшталту “мы дапамаглі жыхарам у зваротах і атрымалі перамогу” зьніжае давер да Вас. А вось “жыхары сваімі сіламі зьмянілі якасьць жыцьця” працуе лепей. Што да Вашага ўдзелу — сарафаннае радыё працуе больш эфэктыўна, чым сотні бюлетэняў. Адпавед-

на, заўсёды ў разе пасьпяховае працы асоба чалавека (не Вашага актывіста) на першым месцы. Вашая роля — максымум "пракансультавалі". А вось няўдача — гэта ўжо "страва на дваіх". Тут наадварот не чалавек прайграў, а Вы недапрацавалі.

**3.** ***Грашовыя пытаньні.*** Ніколі нельга прапаноўваць чалавеку грошы за абарону сваіх уласных інтарэсаў. Так, папера, адсылка — гэта Вы можаце ўзяць на сябе. Любы іншы варыянт вядзе да зьніжэньня даверу "ён плаціць — значыць гэта яму трэба". Адпаведна ад Вас будуць чакаць большага, а самі "рызыкаваць" лішні раз пабаяцца.

**4.** ***Адмова ад кампрамісу з уладамі*** — яшчэ адна памылка. Бывае так, што закон на баку людзей. Рэсурсаў зрабіць лепей мясцовая ўлада ня мае. Можна альбо пераводзіць праблему ў палітычную сфэру альбо ісьці на кампраміс. Першае не вядзе да вырашэньня. Гэта ўсяго толькі шум, які прыводзіць да "аднясеньня тэмы да ліку "палітычных"" аддзеламі па зваротах грамадзянаў. Тады праблема ня вырашыцца прынамсі некалькі гадоў. Другі варыянт — ісьці шляхам перамоваў і шукаць варыянты. Напрыклад, няма грошай на рамонт пад'ездаў. Скралі, інфляцыя зьела — ня важна. Іх проста няма й ня будзе. Затое ёсьць працоўныя рукі й частка матэрыялаў. Вось тут Вам давядзецца размаўляць з жыхарамі й тлумачыць, навошта яны мусяць сабраць 20, 30, 40% грошай на матэрыялы, каб ЖКГ зрабіла рамонт. Галоўнае — вынік.

Такі падыход прыводзіць да вельмі цікавых працэсаў. Любы чалавек баіцца сыстэмы. І перастае яе баяцца ў той момант, калі атрымае першую перамогу. А калі яна яшчэ вымяраецца матэрыяльна (кампэнсацыя ад дзяржавы) — яшчэ лепей. Адпаведна, праз уласную выгаду, праз уласную перамогу чалавек пачынае бачыць пэрспэктывы ў сумесных дзеяньнях. Тады некаторыя з такіх асобаў ці ўліваюцца ў Вашую арганізацыю, ці становіцца людзкім рэзэрвам для разнастайнай актыўнасьці.

З другога боку, мясцовая ўлада таксама бачыць вашу здольнасьць да перамоваў. Вы становіцеся “адэкватным суразмоўцам”. Гэта дае дадатковыя выгоды ў працы. Так, дзяржаўная палітыка на “прыдушэньне НДА” не зьнікае. Аднак гэтую палітыку рэалізуюць мясцовыя чыноўнікі. Яны, натуральна, ня зоймуцца сабатажам прамых загадаў. Але ня будуць самі праяўляць залішняй ініцыятыўнасьці й творчасьці. Гэта ўжо нямала.

## 3. Простыя парады што да добрай працы са зваротамі.

***Ёсьць мэханізмы, якім чынам зрабіць Ваш зварот больш пасьпяховым:***

**1.** ***Ветлівасьць.*** Вы “ўпэўненыя”, што чыноўнік, якому пішаце, проста ў снах мроіць пра дапамогу насельніцтву. А ягоныя падначаленыя — усе намаганьні марнуюць. Так, клясычная

схема "я начальнік — ты дурань , ты начальнік — я дурань" цьвёрда сядзіць у галовах. Адпаведна, ня столькі сварыце падначаленых (але ўказвайце ўсе выпадкі адсутнасьці рэакцыі зь іх боку), колькі выказвайце ўпэўненасьць у магчымасьці вырашыць праблему дзякуючы намаганьням таго, хто будзе чытаць.

**2.** ***Вывучыць нормы.*** Любое ведамства працуе на падставе ня толькі законаў, але й загадаў, мэтадычных рэкамэндацыяў і г.д. Дзіўна, але ў адрозьненьні ад значнай часткі суседніх краінаў, у Беларусі гэтыя дакумэнты знайсьці можна. Натуральна, не адразу, бо яны раскіданыя на сайтах ведамстваў, у блогах і г.д. Але ў інтэрнэце яны ёсьць — была ж кампанія "пачатку электроннага абароту дакумэнтаў". Вось іх і закінулі. Не разьмясьцілі лягічна, а менавіта закінулі. Таму шукаем СТБ (так, стандарты вызначаюць усё, асабліва што тычыцца работаў і паслугаў), загады, нарматывы й тыя самыя сацыяльныя стандарты. Ёсьць такія таблічкі, прычым зьвярстаныя яны для кожнага рэгіёну (са сваёй спэцыфікай).

**3.** ***Ня трэба падавацца экспэртам.*** Вы ў любым разе ня ведаеце ўсіх дакумэнтаў. Таму замест абвінавачваньняў задаем пытаньні. Напрыклад, "Ці адпавядае такі стан вады СТБ "Вада пітная" №...?", "Ці адпавядае водазабор, зь якога яна бярэцца, СТБ №... "сьвідравіны й водазаборы для забесьпячэньня насельніцтва пітной вадой?"", "Ці выканана ў нашай

мясцовасьці дзяржаўная (а былі й рэгіянальныя) праграма “пітная вада?”” і г.д.

**4.** ***Тое самае па сацыяльных стандартах*** — “Ці адпавядае існым сацыяльным стандартам тэмпэратура паветра ў кватэры +13 цягам 20 дзён у студзені (даты пералічыць)?”. АЛЕ! Спасылацца на стандарты варта толькі пасьля таго , як пералічылі пытаньні па СТБ, нарматывам і г.д. Чаму? Бо з той жа тэмпэратурай можа так стацца, што яна нізкая, бо вашыя вокны “дзіравыя”. Прынамсі, калі пісаць толькі па сацстандартах, можна атрымаць такі адказ.

**5.** ***У разе папярэдніх зваротаў у ніжэйшыя інстанцыі вельмі выгодна пералічыць іх папярэднюю рэакцыю.*** Ня ў выглядзе “неаднаразова пісаў, але нічога не зрабілі”, а прыкладна так “пісаў /дата/, абавязаліся паправіць — прайшоў тэрмін, нічога няма. Тэлефанавала — сказалі “пачакайце”. Дарэчы, любімыя выразы “пачакайце”, “хутка будзе”, “не адны Вы такія” — добрыя падставы для іроніі й тролінгу вышэйстаячых чыноўнікаў. Вы проста ветліва запытваеце “колькі пачакаць?”, “як хутка будзе?”, “у каго яшчэ такая праблема?”.

**6.** ***Выхад на палітычны ўзровень.*** Чыноўнік не баіцца, калі яго абвінавацяць у кепскай рэакцыі на зварот. Яго кідае ў халодны пот, калі атрымлівае абвінавачаньне ў невыкананьні ўказу, дырэктывы й г.д. Таму выкарыстоўвайце такія выразы, як “такое ігнараваньне

праблемы кідае цень на дзяржаўную палітыку па ўсталяваньні й выкананьні сацыяльных стандартаў", "я не хачу сумнявацца у выкананьні дырэктывы №..., але кепская праца на месцах можа стварыць падставы для такіх сумневаў".

**7.** ***Структура і сьпісы.*** Так, важная рэч, бо чытаць проста тэкст цяжка. І чыноўнік можа не прачытаць цалкам — зірнуць на першы й апошні абзац. А падзагалоўкі й сьпісы павялічваюць Вашыя шансы.

**8.** ***Не пісаць мастацкіх твораў.***

Максымальны аб'ём ліста — 6500 знакаў — 2 старонкі.

## ПЁТАР КУЗЬНЯЦОЎ, ГОМЕЛЬ:

# 10 ПРАВІЛАЎ ПАСЬПЯХОВАЙ МЭДЫЙНАЙ КАМПАНІІ

**1.** ***Дасьледуйце інтарэсы й патрэбы сваёй мэтавай групы*** і тэму мэдыякампаніі абавязкова спраўджвайце з вынікамі дасьледаваньняў — трапляйце ў чаканьні адрасату, і кампанія “паляціць”.

**2.** ***Вывучайце каналы распаўсюду інфармацыі,*** найбольш папулярныя ў вашай мэтавай групы, аптымізуйце вашыя мэдыйныя прадукты пад менавіта гэтыя каналы — самы кароткі шлях той, які ведаеш!

**3.** ***Стварайце прадуманы мэсэдж*** для адрасатаў і адаптуйце свой вобраз (імідж) пад блізкія для мэтавай аўдыторыі стандарты — будзьце адным з тых, да каго хочаце дагрукацца!

**4.** ***Абыгрывайце мэсэдж максымальна*** разнастайнымі мэтадамі (графіка, тэксты, выкарыстаньне відэа, музычных аналёгіяў), але заўсёды прытрымлівайцеся яго — будзьце непрадказальнымі, але пасьлядоўнымі адначасова, і людзей гэта абавязкова зацікавіць.

**5.** ***Выкарыстоўвайце максымальна*** магчымую колькасьць каналаў распаўсюду — грукайце ва ўсе дзьверы.

**6.** ***Зьвяртайцеся да асабістых эмоцыяў*** і чаканьняў адрасату — калі Вы робіце гэта дзеля людзей, хай людзі гэта адчуваюць!

**7.** ***Адно з галоўных правілаў:*** чым больш — тым лепш. Памятайце: ніводны з вашых адрасатаў не сядзіць круглыя суткі ля кампутару ў чаканьні вашага артыкулу ці паста. А вашае паведамленьне з кожнай сэкундай апускаецца ў "стужцы" ўсё ніжэй і ніжэй, і кожную сэкунду шанец на тое, што яго пабачыць той, хто зараз офляйн — усе менш. Дзеля большага ахопу кампаніі прысутнасьць у мэдыйным полі павінна быць максымальнай. Гэта добра зразумелі яшчэ ў індустрыяльную эпоху тэлевізійшчыкі, менавіта таму ТВ-каналы "круцяць" адныя й тыя ж навіны па некалькі разоў на дзень.

**8.** ***Паўторы ключавых думак*** у розных формах, роўна й як простыя паўторы ўдалых пастоў — гэта добра й карысна. Той, хто не зразумеў зь першага разу — зразумее, хто зразумеў, але не запомніў — запомніць, а такіх, хто й разумеў бы, і запомніў зь першага разу, амаль не існуе.

**9.** ***“Сьцісласьць — сястра таленту”*** — актуальнае правіла толькі тады, калі ёсьць талент, бо без “брату, сястра — не сястра”. Імкніцеся найперш перадаць думку. Калі гэта атрымліваецца ў кароткай афарыстычнай фразе (140 сымбаляў у твітэр-фармаце) — супэр, Вы — чэмпіён, але ня цешце сябе ілюзіямі, што так павінна быць і бывае часта. У параўнаньні з той колькасьцю думак чалавека, якія былі выказаныя й напісаныя за ўсю гісторыю чалавецтва, колькасьць сапраўдных афарызмаў не складае й адной мільённай працэнта. Сапраўды якасны кароткі кантэнт — гэта вышэйшы пілатаж PR, і на рынку кантэнту каштуе надзвычай дорага. Таму: калі атрымліваецца каротка й зьмястоўна — выдатна, калі не атрымліваецца — найперш перадавайце думку, бо форма бяз думкі — гэта пустышка.

**10.** ***Выкарыстоўвайце адкрытасьць*** і інклюзіўнасьць: вашыя адрасаты могуць стаць рэтрансьлятарамі, павялічваючы ахоп кампаніі самі, уласнымі рэсурсамі, калі адчуюць, што робяць адну з Вамі, карысную справу.

### УЛАДЗІМЕР БУЛАЎСКІ, ВІЦЕБСК:

# РЭКАМЭНДАЦЫІ РЭГІЯНАЛЬНЫМ НДА КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНІЦКАЙ НАКІРАВАНАСЬЦІ

Моладзевая крэатыўная супольнасьць VITEBSK4ME пераважна выступае ў Віцебску ў якасьці “гульца” на полі культурніцка-асьветніцкай дзейнасьці, таму ніжэйпрадстаўленыя рэкамэндацыі будуць асабліва карыснымі для рэгіянальных структураў грамадзянскай супольнасьці падобнай накіраванасьці. Пры гэтым, рэкамэндацыі могуць у поўнай меры выкарыстоўвацца на розных этапах дзейнасьці ініцыятываў іншага кірунку.

Адна з галоўных праблемаў, зь якой сутыкаецца кожная рэгіянальная ініцыятыва — актыўныя ўдзельнікі. Відавочна, што для пасьпяховай дзейнасьці й дзейнасьці ўвогуле, неабходна наяўнасьць кваліфікаваных удзельнікаў (валянтэраў, крэатэраў і г.д.), а таксама пэрыядычнае абнаўленьне й павышэньне адукацыйнага ўзроўню кадраў (з мэтай прадухіліць замкнёнасьць структуры).

***З досьведу апошніх 4 гадоў можна вылучыць 2 найбольш пэрспэктыўныя шляхі пошуку актывістаў:***

- ***празь інфармаваньне існуючай аўдыторыі*** ды, як вынік, стварэньне зацікаўленасьці да дзейнасьці арганізацыі. Прыклад: абвесткі аб наборы валянтэраў для працы на культурніцкіх падзеях. Частка з гэтай аўдыторыі гарантавана застанецца ў полі зроку арганізацыі;
- ***праз стварэньне і вырошчваньне актыўнай культурнай аўдыторыі*** шляхам арганізацыі адукацыйных курсаў. Пасьпяховы прыклад Віцебску — стварэньне школаў журналістаў, культурніцкіх мэнэджараў, мэнэджараў аховы гісторыка-культурнай спадчыны *(з вынікамі й працэсам можна азнаёміцца на сайце: http://publicrepublic.info).*
  Па выніку падобных курсаў Вы маеце цалкам гатовых спэцыялістаў у патрэбнай Вам сфэры.

## *Важнымі фактарамі пасьпяховага існаваньня арганізацыі зьяўляюцца:*

**1.** ***Пазытыўнае выкарыстаньне досьведу*** праз паўсядзённую дзейнасьць;

**2.** ***Аналіз патрэбаў мэтавай аўдыторы***і (апытаньні) з дапамогай інтэрнэт-рэсурсаў і анляйн-анкетаў. Правядзеньне маштабных дасьледаваньняў у рэгіянальных умовах вельмі праблематычнае. Але празь лякальны маніторынг пэўных пытаньняў і праблемаў магчыма азнаёміцца з грамадзкім меркаваньнем, а таксама скласьці базу кантактаў для наступнага апавяшчэньня вынікаў дзейнасьці арганізацыі;

**3.** ***Арганізаваная праца са СМІ*** і post-production. У паўсядзённай дзейнасьці важныя ня толькі наладжаны кантакт з прадстаўнікамі СМІ, але й уменьне самастойна прэзэнтаваць вынікі дзейнасьці (самымі прадуктыўнымі спосабамі можна лічыць фота- й відэарэпартажы), што можа прыцягнуць увагу незаангажаванай аўдыторыі да дзейнасьці арганізацыі;

**4.** ***Публічнасьць падзеяў*** і пазытыўнае выкарыстаньне каляндарных датаў. Правядзеньне адкрытых падзеяў зможа пашырыць аўдыторыю, а таксама дапамагчы з пашырэньнем

партнэрскіх сувязяў зь іншымі арганізацыямі, дзяржаўнымі ўстановамі й бізнэсам. Прыкладам падобных падзеяў у Віцебску могуць выступаць бясплатныя гарадзкія экскурсіі, вулічныя вы-ставы й канцэрты, уключэньне лякальных падзеяў у гарадзкія сьвяты. Прыкладам пазытыўнага выкарыстаньня каляндарных датаў могуць быць сьвяты, уключаныя ў каляндар ААН (напр. Міжнародны Дзень Міру);

**5. *Вывучэньне й адаптацыя досьведу*** арганізацыяў падобнай накіраванасьці ў іншых рэгіёнах. Гэта больш прадуктыўны шлях, чым, напрыклад, перайманьне досьведу дзейнасьці грамадзкіх сруктураў у вялікіх гарадах кшталту Менска.

Вынікам паступовай рэалізацыі рэкамэндацыяў зьяўляецца стварэньне й замацаваньне пазытыўнага вобразу рэгіянальнай грамадзкай арганізацыі, што спрашчае стварэньне партнэрскіх сувязяў і арганізаванай супрацы зь дзяржаўнымі й бізнэс-структурамі.

ЗІНАІДА ЦІМОШАК, СЛУЦАК:

# ПАСЬПЯХОВЫЯ ЛЯКАЛЬНЫЯ КАМПАНІІ Ў СЛУЦКУ Й СЛУЦКІМ РАЁНЕ

## *1. Пералік некаторых пасьпяховых кампаніяў:*

**1.** ***Кампанія па добраўпарадкаваньні могілак у Беларусі "Кветкі замест асоту".*** Сабрана ***3400 подпісаў*** у Слуцку й Слуцкім раёне. Адбыліся суды ў Капылі й Слуцку. Сярод насельніцтва распаўсюджаная інфармацыя аб правілах утрыманьня могілак у Беларусі. Праведзены валянтэрскі суботнік на гарадзкіх могілках. Праведзеная шырокая інфармацыйная

кампанія ў СМІ. У выніку, прыцягнутая на ўзроўні кіраўніцтва рэспублікі ўвага да становішча могілак. Зараз яны маюць больш прыстойны выгляд.

**2.** ***Летняя лякальная кампанія ў Слуцку "Вернем гораду гарачую ваду".*** Сабралі ***1240 подпісаў*** пад калектыўным зваротам у райвыканкам і аблвыканкам. Гораду была вернута гарачая вада. Старшыня райвыканкаму быў звольнены.

**3.** ***Лякальная кампанія "Ўспомнім пра вёску".*** Сабралі ***557 подпісаў*** пад рознымі праблемамі жыхароў вёсак Грозаўскага сельсавету Капыльскага раёну. Разгарнулі інфармацыйную кампанію. ***Посьпехі:*** прыцягнутая ўвага да праблемы зарослсасьці баршчэўнікам ваколіцаў вёсак, адбылося абкошваньне вёсак, добраўпарадкаваньне старых габрэйскіх могілак, асфальтаваньне вуліцы Слуцкай у вёсцы Грозаў, рамонт дарогаў Капыль–Яўсеевічы, Грозаў–Дубейкі, адчыненыя душавыя кабіны ў аграгарадку Грозаў, адкрыты дадатковы аўтобусны рэйс Капыль–Слуцак праз Канюхі й Грозаў, старшыня Грозаўскага сельвыканкаму прыцягнутая да адміністратыўнай адказнасьці.

**4.** ***Кампанія па добраўпарадкаваньні прыдамавых тэрыторыяў*** каля дому №22 па вуліцы 8-е Сакавіка, дамоў №128 і №138 па вуліцы Сацыялістычная, будаўніцтва сучас-

най дзіцячай пляцоўкі ў мікраараёне вуліцы Сацыялістычная, пачалося добраўпарадкаваньне тэрыторыі дзіцячага садку №5 у горадзе Слуцак.

**5. *Аднаўленьне на працы незаконна звольненага жывёлаводу ў СПК "Саўгас Слуцак"*** — праз суд, з матэрыяльнай і маральнай кампэнсацыяй.

## 2. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах Беларусі.

Каб дамагчыся вырашэньня той ці іншай грамадзкай праблемы, рэкамэндуецца:

**1. *Азнаёміцца з комплексам*** усіх законаў па існуючай праблеме;

**2. *Правесьці маніторынг*** праблемы й усьвядоміць, наколькі гэтая праблема мае важнасьць для канкрэтных людзей альбо для жыхароў мікраараёну (гораду, краіны).

**3. *Паінфармаваць аб праблеме*** праз артыкулы ў СМІ. На гэтыя артыкулы можна потым спасылацца падчас перапіскі з чыноўнікамі.

**4. *Давесьці да насельніцтва вытрымкі з заканадаўства*** (пасродкам улё-

так, інфармацыйных буклетаў, памятак), калі для вырашэньня праблемы трэба спасылацца на заканадаўства.

**5.** ***Арганізаваць індывідуальныя звароты*** як мага большай колькасьці людзей у дзяржаўныя ўстановы, якія адказваюць за вырашэньне праблемы.

**6.** ***Запісацца на індывідуальны прыём*** да кіраўнікоў адпаведных службаў, райвыканкамаў, аблвыканкамаў.

**7.** ***Арганізаваць збор падпісаў*** пад калектыўным зваротам жыхароў гораду, усю перапіску весьці праз заказныя лісты з паведамленьнем.

**8.** У выпадку затрымкі адказаў на звароты адпаведна з заканадаўствам, ***зьвярнуцца ў пракуратуру,*** альбо ў камітэт дзяржаўнага кантролю зь перасылкай копіі паведамленьня з датай атрыманьня звароту ва ўстанове.

**9.** ***Калі праблема не вырашаецца чыноўнікамі*** й парушаецца заканадаўства — распачаць судовы працэс.

**10.** ***Пра кожны этап працы паведамляць журналістам,*** пісаць невялікія інфармацыйныя артыкулы для інтэрнэт-сайтаў.

**11.** ***Інфармаваць усіх удзельнікаў*** кампаніі аб хадзе працы: кожны актывіст можа абзваніць прыкладна 10-15 чалавек і давесьці інфармацыю да жадаючых.

**12.** ***Даводзіць да ведама чыноўнікаў публікацыі ў СМІ*** па праблеме ў выглядзе перасылкі раздрукаваных тэкстаў журналісцкіх артыкулаў, альбо перасылаць спасылкі ў Інтэрнэце.

**13.** ***Арганізаваць відэасюжэт*** для інтэрнэт-сайтаў, юрыдычнай перадачы "Маю права" на тэлеканале БЕЛСАТ.

**14.** ***Дабівацца вырашэньня праблемы*** адпаведна існуючых законаў да атрымання посьпеху.

**15.** ***Зрабіць шырокі розглас вынікаў*** кампаніі праз напісаньне артыкулаў у мясцовыя газэты, раздрукоўку ўлётак і г.д.

**16.** ***Падтрымліваць зносіны з актыўнымі людзьмі*** й надалей, распрацоўваць новыя грамадзка карысныя акцыі.

ІГАР КАЗЬМЯРЧАК, ВОРША:

# АКТЫВІЗАЦЫЯ МЯСЦОВАГА НАСЕЛЬНІЦТВА НА ПРЫКЛАДЗЕ ПРАЦЫ МГА “ЗЬВЯЗ”

## *1. Апісаньне праблемы, якая падштурхнула да пачатку кампаніі.*

Кабыляцкая гара ў Оршы — адно з двух месцаў, дзе ўлады прызналі факт масавых расстрэлаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў (другія Курапаты). У пачатку 90-х на хвалі грамадзкага інтарэсу й абурэньня ўлады былі вымушаныя пайсьці насустрач грамадзкасьці й усталяваць тут помнік. Грамадзкія актывісты штогод прыходзілі да помніку, каб ускласьці кветкі, ушанаваць бязьвінных

ахвяраў рэпрэсіяў. Але час ішоў, зьмянілася палітычная сытуацыя, крыўда на ўладу пачала сьціхаць, палітычныя рэпрэсіі — хаця й у меншых аб’ёмах ды лягчэйшых формах — зноў сталі звыклай зьявай, а помнік пачаў прыходзіць у заняпад. Невядомыя скралі з помніка дошку (яна была хутка аднаўленая грамадзкімі актывістамі), пляцоўка перад помнікам зарасла, крыжы падгнілі. Ды й людзей стала прыходзіць на ўшанаваньне памяці расстраляных усё меней. СМІ пісалі пра Кабылякі толькі 1-2 разы на год у кантэксьце “Дзядоў”.

У такіх умовах арганізацыя “Зьвяз” вырашыла актуалізаваць тэму палітычных рэпрэсіяў. Нагадаць грамадзянам, СМІ, уладам пра страшныя часы рэпрэсіяў і, адпаведна, пра недапушчальнасьць рэпрэсіяў сёньня ды ў будучыні.

## *2. Як гэтая кампанія праходзіла.*

Для актуалізацыі праблемы было вырашына часткова рэканструяваць помнік на Кабыляцкай гары, што прыцягнула дадатковую ўвагу СМІ і грамадзтва.

Рабочая група пачала падрыхтоўку да галоўнага мерапрыемства задоўга. Былі сабраныя й структураваныя некаторыя дадатковыя зьвесткі па рэпрэсіях у рэгіёне, запісаныя ўспаміны людзей пра тыя

часы — гэта спатрэбіцца для будучай працы. У бліжэйшых да помніка дамах раскіданыя ўлёткі, якія нагадвалі пра помнік. Уладам быў накіраваны калектыўны ліст з просьбай узяць помнік пад ахову.

Другая частка групы займалася тэхнічнай падрыхтоўкай да рэканструкцыі помніка.
Да Кабылякоў былі прывезеныя мастакі, якія зрабілі свае прапановы па тым, што й як варта было б палепшыць на гэтым месцы — стварыўшы плян рэканструкцыі (таксама распрацавалі ідэі для будучага разьвіцьця помніка й пераўтварэньня яго ў мэмарыяльны комплекс). Былі закупленыя й дастаўленыя (а гэта праз лес і прыгоркі было вельмі складана) пясок, шчэбень, іншыя матэрыялы ды рыштунак. У адзін з выходных дзён, на ўскрайку гораду ў загадзя паведамленым месцы пачалі зьбірацца арганізатары й актывісты для таго, каб потым рушыць да помніка разам. У заплянаваны час людзей сабралася ня шмат — для паўнавартаснай працы такой колькасьці хапіла б, аднак думалі, што праблема помніку закране болей людзей.

***Калі арганізатары дайшлі да самога помніку, надышла нечаканая радасьць — не чакаючы агульнай сустрэчы з арганізатарамі, мясцовыя жыхары самі прыйшлі да помніку й пачалі працы.***

Вакол помніка была прыбраная старая пабітая плітка, выдраная непатрэбная трава. Пляцоўка вакол помніку была цалкам ачышчаная, і на яе месцы замест старой пліткі зьявіўся бардзюр, які аддзяліў асноўную частку пляцоўкі — цяпер яна засыпана гравіем ад адмыслова створанай клюмбы.

## 3. Прыклады пасьпяховых дзеяньняў і ня вельмі.

Прайшло каля паўгаду, калі грамадзкія актывісты традыцыйна восеньню прыйшлі на “Дзяды” да Кабыляцкай гары. Акрамя таго, што зьнешні выгляд помніка сёньня значна лепшы, чым быў раней, дзякуючы рэканструкцыі пляцоўкі, на клюбе мясцовыя жыхары (без удзелу арганізатараў той талакі) высадзілі кветкі, побач з помнікам плакучую іву. А таксама, каля помніку пачалі

зьяўляцца шыльды зь імёнамі тых, хто мог быць расстраляны ў гэтым месцы. Улады, на жаль, адмовіліся ўзяць помнік пад ахову, бо праз амаль 25 гадоў пасьля прызнаньня факту расстрэлу тут бязьвінных жыхароў, цяпер, аказалася, у дзяржавы няма доказаў гэтага самага факту.

## *4. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах Беларусі.*

Для пасьпяховай грамадзкай дзейнасьці — на прыкладзе Аршанскіх НДА — патрэбныя тры кампанэнты:

**1.** ***Супольныя дзеяньні*** (разам зь іншымі НДА, стварэньне кааліцыі ды ўвогуле ўзаемапаразуменьне з саюзьнікамі).

**2.** ***Праца на вынік:*** пастаноўка карэктных і канкрэтных мэтаў для дзейнасьці.

**3.** ***Публічнасьць дзейнасьці*** — не замыкацца на дзейнасьці ўнутры арганізацыі ды прыцягваць да дзейнасьці як мага болей незаангажаваных людзей.

## АЛА ШЫЦІКАВА, ВЁСКА ЗАЛЕСЬСЕ СМАРГОНСКІ РАЁН:

# СТВАРЭНЬНЕ МЯСЦОВАГА ДАБРАЧЫННАГА ФОНДУ “ПАЎНОЧНЫЯ АФІНЫ М.К. АГІНСКАГА”

***1. Найважнейшымі перадумовамі стварэньня фонду “Паўночныя Афіны М.К. Агінскага” былі:***

- Аднаўленьне сядзібна-паркавага комплексу Міхала Клеафаса Агінскага;

- Устойлівае разьвіцьцё тэрыторыі раёну;
- Паляпшэньне якасьці жыцьця на вёсцы.

Місія фонду — садзейнічаньне разьвіцьцю Смаргонскага рэгіёну праз захаваньне й разьвіцьцё гісторыка-культурнай спадчыны раёну й уцягваньне жыхароў у рашэньне мясцовых праблемаў.

## 2. Рэкамэндацыі па магчымым выкарыстаньні досьведу ў іншых рэгіёнах Беларусі.

**1.** ***Зацікаўленасьць мэтавай групы*** ў вырашэньні надзённых пытаньняў дзеля разьвіцьця рэгіёну й паляпшэньня жыцьцёвых умоваў мясцовасьці.

**2.** ***Абмеркаваньне й першапачатковае вырашэньне*** тых пытаньняў, якія датычацца ўсіх жыхароў, правядзеньне зь імі масавых акцыяў і мерапрыемстваў.

**3.** ***Сумеснае абмеркаваньне*** ў арганізацыі тых задачаў, якія трэба вырашаць самастойна.

**4.** ***Дэталёвае плянаваньне працы,*** правядзеньне стратэгічнага плянаваньня.

**5.** ***Першыя пасьпяховыя й масавыя мерапрыемствы*** — гарантыя посьпеху ў далейшым.

**6.** ***Для больш пасьпяховай працы*** рэкамэндуецца супрацоўніцтва зь бізнэсам і мясцовымі ўладамі.

**7.** ***Адкрытасьць і празрыстасьць дзейнасьці.*** Супрацоўніцтва са СМІ надае пэўны аўтарытэт арганізацыі й вядомасьць у грамадзтве.

**8.** ***Вялікае значэньне для разьвіцьця*** й пасьпяховай дзейнасьці арганізацыі мае аўтарытэтны лідэр, якому давяраюць усе сябры арганізацыі.

**9.** ***Адукацыя сябраў калектыву*** (сэмінары, канфэрэнцыі, паездкі для абмену досьведам) падвышае ўзровень арганізацыі й узмацняе яе патэнцыял.

